*Мілагучнае, звонкае, сьпеўнае слова*



# ВЕРАС



gazeta@veras.bn3.com **Выданьне Віцебскай суполкі моладзі «ВЕРАС»** №8(8) верасень 2000 г.




Выбары — рэч, безумоўна, неабходная: без яе немагчыма ўявіць сабе дэмакратычны лад жыцця. Але тое, што адбудзецца 15 кастрычніка на Беларусі, назваць патрэбным для нашага грамадства нельга.

Справа ў тым, што Парламент ў нашай краіне, згодна з рэдакцыяй'96 Канстытуцыі, зараз мае абмежаваныя паўнамоцтвы, якія можна параўнаць адно што з паўнамоцтвамі Народных сходаў дзяржаў г.зв. «трэцяга свету». У цывілізаванай жа Еўропе сітуацыя зусім іншая. Так, можна прывесці прыклад Германіі, дзе улада належыць Парламенту, а прэзідэнт мае мізэрныя паўнамоцтвы. Там ён з'яўляецца сімвалам нацыі, але ніяк не палітычнай фігурай. І што, гэтая цэнтральна-Еўрапейская дзяржава пакутуе ў галечы?.. Таксама ўзгадаем Вялікабрытанію. Тут сітуацыя дакладна паўтарае Германскую. Манарх не ўдзельнічае ў палітычным жыцці краіны, але з ім атаясамляюць само каралеўства, яго моц і традыцыі. Зноўку ж, беднай Вялікабрытанію назваць нельга. Хутчэй наадварот.

У Беларусі ж створана жорсткая вертыкаль улады, якая павінна забяспечваць «дысцыпліну і парадак», але насамрэч мы маем тое, што маем... Узнікае пытанне: а ці патрэбны нам такі палітычны лад? Адказ відавочны.

Вяртаючыся да выбараў: што дасць народу новаабраны Парламент? Ды нічога. Асабліва калі зважаць на тое, што ён не будзе прызнаны краінамі свету (за рэдкімі выключэннямі). Вясной наступнага году адбудуцца прэзідэнцкія выбары, чакаць засталося нядоўга. Калі на іх пераможа дэмакрат, то наш Нацыянальны сход будзе, хутчэй за ўсё, распушчаны, і будуць абвешчаныя новыя, дэмакратычныя выбары дэпутатаў. Калі ж кіраўніком дзяржавы абяруць Аляксандра Лукашэнку, то Беларускі Парламент так і застанецца пад абцасам Прэзідэнта. Такім чынам, карысці ад такой «уладнай» структуры ўсё роўна ня будзе.

*«Верас»*




## Незалежнасць — гэта дабрабыт




*Дынаміка сярэднемесячнага росту заробку ў далярах*

Кожны чалавек імкнецца падвысіць свой дабрабыт — чым больш заможны чалавек, тым большыя магчымасці ён мае, тым больш незалежны ён ад нягодаў лёсу. Людзі таксама адчуваюць, што незалежнасць краіны — галоўная ўмова дабрабыту ўсіх яе жыхароў.

Нагадаем некалькі фактаў. Беларусь стала поўнасцю незалежнай у 1991 годзе адначасова з суседзямі. Аднак Беларусь, у адрозненне ад Польшчы, Чэхіі, краін Балтыі, не стала развівацца, як еўрапейская краіна. Пад лозунгамі «восстановим разрушенные связи» падпарадкаваныя Маскве ўлады сталі «інтэграваць» Беларусь з беднай і адсталай Расеяй.

Як змяніўся дабрабыт нашых грамадзян у выніку павароту ў мінулае? Сярэднемесячны заробак жыхароў Беларусі, Польшчы, Чэхіі, Літвы, Латвіі, Эстоніі быў у 1991 годзе прыкладна аднолькавым (каля 100$). У 1999 годзе заробак жыхароў Прыбалтыйскіх краін стаў 250-300$, а жыхароў Польшчы і Чэхіі — 350-400$. У той жа час сярэдні заробак ў Расеі знізіўся да 65-70$, а ў беларусаў — да 30-40$.

Дабрабыт людзей таксама залежыць ад тэмпаў інфляцыі. Патлумачым: інфляцыя — гэта спосаб, з дапамогай якога дзяржава праз друкаванне грошай улазіць у нашыя кішэні. У 1999 годзе інфляцыя ў Польшчы склала 7%, у Чэхіі 2%, у Літве 1%, у Эстоніі 4%, у Латвіі 2%. У Расеі ў 1999 годзе інфляцыя склала 90%. а ў Беларусі — аж 350%.

Ці патрэбны яшчэ якія-небудзь каментары да гэтага?

*«Сумежжа»*

# Сабачыя выбары


Irex/ProMedia

15 верасня, пятніца, цудоўнае надвор'е.

Мы прыйшлі ў парк Дружбы народаў, што ля пляца Бангалор, на Выбарчыя гонкі. Калі б у нас быў сабака, то прыйшлі б з сабакам, бо гэта былі сабачыя выбары ў Будку прадстаўнікоў. Было весела, кандыдаты не лаяліся, больш маўчалі. За іх гаварылі гаспадары, якія цвёрдай рукой утрымлівалі сваіх віславухіх на павадках. Нейкі дзядзька, які вылучаўся сярод моладзі, выступіў з прамовай: вось, маўляў, адбываецца дыскрымінацыя жывёл. Яны, нашы малодшыя браты, пазбаўлены выбарчых правоў. Не могуць, небаракі, галасаваць, не могуць выстаўляць свае кандыдатуры ў Будку. Тут нам нехта пiхнуў у рукі плакат «Наш кандыдат — Мікола», а гаспадар павёў свайго каротканогага брахуна да выбарчай скрыні. На сабачай пляцоўцы былі кандыдаты: сабака Дамасед, сабака Шарыкаў, сабака Барклі і яшчэ хто-ніхто. Міліцыя кандыдатаў не чапала, але цішком выкрала адзін з плакатаў — пэўна, каб упрыгожыць ім свае пакоі. Аднаго мы не зразумелі: які ж сабака перамог у Выбарчых гонках? У канцы выбараў усе так разбрахаліся, што мы заткнулі вушы і пайшлі вучыць урокі, бо назаўтра у нас была кантрольная.

*Кастусь Шыдлоўскі,*
*Алена Сінкевіч, мінскія дзесяцікласнікі.*

**Ад рэдакцыі.** Мерапрыемства, санкцыянаванае Мінгарвыканкамам, праводзіла Асамблея дэмакратычных няўрадавых арганізацый Беларусі.

# З глузду зьезд

## Рэпартаж з цытатамі

**29 верасьня ў Менску адбыўся Зьезд Саветаў, ініцыяваны Аляксандрам Лукашэнкам, які склікаўся ў перавагу Усебеларускаму Зьезду. Пра свае ўражаньні ад гэтай падзеі з чытачамі дзяліцца Зьміцер Каляраддзкі.**

Зьвяртаючыся з высокай (150 см) трыбуны да дэлегатаў зьезду дэпутатаў саветаў дэпутатаў, правадыр зазначыў: «Усё добрае, што было ў тым жыцьці, трэба захаваць». «... у жыцьці наступным», — дадалі ў думках дэлегаты-дэпутаты. Правадыр адчуў іхную іронію ды сыранізаваў сам: «Тут сабраліся кя проста самазванцы».

А далей прадоўжыў: «Нікому ня дадзена права зьнішчаць саветы». «А Вярхоўны?» — зноў жа моўчкі спытала сябе аўдыторыя.

«У Беларусі больш спакойна. Ня так страляюць», — даў характарыстыку крымінальнай сытуацыі ў краіне правадыр. «А як трэба?» — хацеў спытаць новы міністар унутраных справаў, але пабаяўся.

Правадыр раскрыў зьезду страшэнную таямніцу: «Наша грамадзтва — людзі сацыялістычнага кшталту. Але жыць, як раней, мы ня зможам. І не таму, што ня хочам або ня можам, а таму, што — паглядзіце навокал. Дзяржавы рухаюцца ў кірунку жорсткай рынкавай эканомікі. Калі мы ня будзем ісьці ў гэтым кірунку, нас проста раздушаць».

Прыгаломшаная заля адразу ўявіла сабе натаўскія танкі ды пачала глядзець спачатку на «нашага Філю»



Irex/ProMedia

(калісьці на падобным сходзе правадыр назваў мітрапаліта «нашым Філарэтам», а няпер ягоны назоў крыху скарацілі), ціха шэпчучы: «Божачка, дапамажы!», а потым на замежнага дэпутата Гену (Генадзя Селязнёва — «Верас»), які аднойчы ўжо дапамог дэпутату Шарэцкаму пераадолець парлямэнцкі крызыс (Гена спрыяў знакамітай начной зьдзелцы напярэдадні рэфэрэндуму ў лістападзе 1996 году, але амэрыканцы тады сказалі пра яе «crack-o'-deal» («крах зьдзелкі», што сугучна з «crocodile»), таму цяпер Гену завуць кракадзілам. Кракадзіл Гена хацеў быў зноўку дапамагчы ды абрынуўся на першага прэсавага сакратара правадыра, сп.Нісьцюка, назваўшы яго самазванцам, але правадыр асадзіў яго, сказаўшы пра Генаву краіну літаральна наступнае: «Бегчы за вамі ўва ўсіх працэсах разьвіцьця эканомікі ды грамадзтва мы ня будзем». Гена аслупянеў, сабраўся нагадаць пра саюзную дзяржаву, што ён ствараў разам з правадыром, але правадыр ужо забыўся пра гэткае ўтварэньне і перайшоў да саюзу, які трэба будаваць «толькі на прынцыпах сувэрэннае роўнасьці яго чальцоў».

Наступнаю тэмай стала апазыцыя. «Скралі мільярды рублёў, мільёны даляраў — цяпер яны круцяцца на экране, хочуць у парлямэнт, хаця мы ўзялі іх за, прабачце мне гэткае слова, хвост», — сказаў ён. ДэлеТаты-дэпуГаты не пасьпелі сьцяміць, дзе ж гэты хвост можа быць, як правадыр распавёў пра жахлівую практыку ў блізкай яму жывёлагадоўлі: «Выціскаюць з каровы малако ды мяса». Напэўна, якраз такім чынам апазыцыя атрымлівае шалёныя грошы. Правадыр ведае, што яны шалёныя. «Грошай у вас шмат — і зялёных, і жоўтых», — паведаміў ён апазыцыі. Тут усе падумалі пра ЗША ды Кітай, але правадыр чамусьці загаварыў пра Францыю: «Во, правялі рэфэрэндум, скарацілі тэрмін паўнамоцтваў прэ-

зыдэнта з 7 да 5 гадоў — мы ж не абураемся, ня робім заяваў, што мы гэта не прызнаем!» Замежны госьць зьезду мсье дэ Легат дэ Путат хацеў удакладніць, што ў Францыі ёсьць сапраўдны парлямэнт, якога няма тут, але правадыр яго апярэдзіў ды расказаў усё, чаго дасюль ня ведаў. Мікола Статкевіч пра палату №2: «Парлямэнт сёньня не валодае тымі паўнамоцтвамі, каб скінуць у краіне ўладу, хто б ні быў абраны».

Сваю прамову правадыр скончыў вершам: «Выбары сёньня — гэта толькі ўвэртура, падрыхтоўка, трэніроўка». Шчасьлівыя зьезданутыя дэпутаты пайшлі ў буфэты купляць канфэты, бо цукерак там не было. Але шчасьлівейшым за ўсіх выглядаў палкоўнік міліцыі Саланец, які напярэдадні Маршу Свабоды-3 набыў сабе ў кулюарах зьезду новую кашулю.

*Зьміцер Каляradзкі, «Наша Ніва»*

**З НОВЫМ ГОДАМ!**

**29 верасьня габрэі сьвяткуюць 5761 год ад стварэньня сьвету. Габрэі лічаць, што ў Новы год людзі стаяць перад судом Усявышняга, які вызначае далейшы лёс кожнага чалавека. Віцебская суполка моладзі «Верас» далучаецца да віншаваньняў Юрыя Дорна, прэзідэнта Юдзейскага рэлігійнага аб'яднаньня Беларусі, які пажадаў габрэям посьпехаў ў шчасьця ў новым годзе.**

*«Верас»*

# СТУДЭНТЫ АДСТАЯЛІ МЕНСК

Назва «Менск» фактычна ўзаконеная — упершыню пасьля 1939 году, калі Саветы памянялі беларускую Канстытуцыю.

Вышэйшы Гаспадарчы суд у асобе судзьдзі Петуховай прызнаў несапраўдным папярэджаньне, вынесенае Мінюстам Задзіночаньню Беларускіх Студэнтаў за выкарыстаньне беларускае назвы сталіцы, Менск, замест зрасейшчанага «Мінск», на блянках арганізацыі.

Прадстаўнік Міністэрства юстыцыі, відавочна, не чакаў такога вырашэньня справы, тым больш, што Дзяржкамітэт па архівах і справаводзтве перад паседжаньнем, як выказаўся міністэрскі юрыст, «дакладна зацьвердзіў»: "Тораду з назвай «Менск» у дадзены момант на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь не існуе». Тым ня менш, палічыла судзьдзя Петухова, якая два гады таму ў аналягічнай сытуацыі вынесла рашэньне на карысьць беларускага клясычнага правапісу ў справе «Наша Ніва» супраць Дзяржкамдруку: ніводзін нарматыўны акт не забараняе ўжываньня слова «Менск».

Паводле сяброў ЗБС, гэткая ўвага да паштовага адрасу аб'яднаньня з боку Мінюсту выкліканая ня клопатам пра дакладнасьць афармленьня блянкаў, а дзейнасьцю ЗБС па абароне правоў студэнтаў — у прыватнасьці, па скасаваньні прымусовага разьмеркаваньня. А ўжываньне клясычнага правапісу стала толькі нагодай для таго, каб «папярэдзіць» і «напалохаць».

Прэцэдэнтнага права ў нашай краіне быццам бы не існуе. Але ж практыка паказвае: прэцэдэнт, створаны падчас справы «Нашай Нівы», на гэты раз замацоўваецца перамогаю ЗБС і не аднойчы «спрацуе» ў будучыні, калі нехта захоча працягваць змаганьне з «тарашкевіцаю».

Судзьдзя ня толькі скасавала папярэджаньне, але і абавязала Мінюст выплаціць ЗБС 52000 рублёў. Мінюст будзе абскарджваць гэтае рашэньне. Але ў паштовым адрасе Задзіночаньня, як і раней, будзе пазначаны Менск. Як і ў адрасах дзясяткаў суполак і тысячаў людзей у сталіцы. Значыць, «у дадзены момант» горад з такой назваю ў Беларусі існуе.

*Ганна Штэйнман, «Наша Ніва»*

# Яміна пад тваімі нагамі

## У краіне існуе нейкая магутная сіла, якая стаіць па-над міліцыяй і законам

21 верасьня ў 22.40 на менскую штаб-кватэру Народнай Грамады быў зьдзейсьнены напад. Злачынцы пранікілі ў памяшканьне эсдэкаў на праспэкце Скарыны і, пагражаючы пісталетам, паклалі прысутных на падлогу, абрэзалі тэлефонныя лініі, ускрылі сэйф і забралі партыйную касу, вынялі з кампутараў вінчэстэры, захапілі партыйную дакумэнтацыю, пасьля чаго бесьперашкодна зьніклі зь месца злачынства. Выкліканая міліцыя ўзбудзіла крымінальную справу.

Варта згадаць, што налёт на офіс Народнае Грамады — чарговы ў шэрагу падобных злачынстваў за апошнія гады. Прыгадаем налёты на штаб-кватэры праваабарончага цэнтру «Вясна-96», Гельсынскага камітэту, на рэдакцыі незалежных газэт. З удзелам міліцыі, без удзелу міліцыі, з частковым удзелам міліцыі... Вінаватыя ня знойдзеныя і не пакараныя. Абсалютна гэтак сама, як у выпадках са зьнікненьнем няўгодных уладзе людзей. Ніводная з гэтых справаў не раскрытая, вінаватыя ня выяўленыя.

На прэс-канфэрэнцыі пасьля налёту на штаб эсдэкаў в.а. міністра ўнутраных справаў Удовікаў прывёў столькі вэрсіяў здарэньня, што стала ясна — міліцыя пачуваецца бездапаможнай, дакладней, наўмысна спаралізаванай у гэтай справе. Гэтаксама як пры разгоне нядаўняга пікету да гадавіны зьнікненьня Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага. Невядомыя ў цывільным напалі на групу пікетоўцаў — апазыцыйных палітыкаў і жанок зьніклых апазыцыянэраў, усчаўся крык на ўсю вуліцу, Лябедзька вырываўся з рук гэтых самых «невядомых»... Тымчасам міліцыя спакойна назірала за ўсім гэтым беззаконьнем.

Міліцыя назірае, міліцыя піша пратаколы, міліцыя ня ўвязваецца... У краіне існуе магутнейшая сіла, якая стаіць па-над міліцыяй і законам. Сукупнасьць фактаў наводзіць на думку пра навязьлівасьць гэтых «невядомых» і ўсёй гэтай «невядомасьці». Нехта цудоўна ведае, куды зьніклі Захаранка, Ганчар, Красоўскі, Завадзкі. І гэты самы нехта цудоўна ведае, хто там разганяў той пікет памяці зьніклых. І гэты ж самы нехта выдатна ведае, хто і навошта рабіў налёты на офісы апазыцыйных партыяў. Гэта адзін нехта. У яго свой почырк, свой стыль. Хто ён? Магчыма, які-небудзь палкоўнік Замяталін — чалавек, які ня раз дэманстраваў свае разыходжаньні з прынцыпамі чалавечнасьці і сумленьня. А магчыма, якія мафіёзі, у чыю сфэру ў Беларусі не дазволена зазіраць нікому, у тым ліку міліцыі. Можа гэта якія маскоўскія «дружкі» цяперашняга кіраўніка Беларусі, якія «вядуць» яго па жыцьці.

*(Працяг на стар. 4)*

Урэшце, гэта ня так істотна. Гэты нехта, безумоўна, Аляксандар Лукашэнка, які сканцэнтраваў у сваіх руках усю паўнату ўлады, а значыць, і паўнату адказнасьці за ўсё тайнае і яўнае, што адбываецца ў Беларусі. Гэта Лукашэнка нават у тым выпадку, калі Лукашэнка пра гэта нічога ня ведае.

Што да паспалітага беларускага чалавека, дык яму застаецца зьмірыцца з думкай, што ў закрытым грамадзтве ён або нехта зь ягоных блізкіх можа ў любы момант праваліцца пад зямлю, а дзяржава зробіць усё, каб ніхто ніколі не даведаўся — за што, у якім месцы і што ўвогуле зь ім адбылося. Гэткая патэнцыйная таямнічая яміна пад нагамі нагадвае пра дзьве небясьпечныя тэндэнцыі. Па-першае, яна ўвесь час пашыраецца. Па-другое, народ мае схільнасьць прызвычайвацца да таго, што нехта ўвесь час у яе правальваецца. Гісторыя ведае прыклады, калі ўрэшце ўся краіна ператваралася ў такую яміну, але чалавек пры гэтым маўчаў і ўхваляў палітыку ўладаў. Пакуль яміна не разьвярзалася пад ягонымі ўласнымі нагамі.

*Алесь Кебік, «Наша Ніва»*

## Очань інцярэсна

Адной з нешматлікіх афіцыйных газэт у Беларусі, якія выходзяць па-беларуску, ёсьць штотыднёвік «Звязда». Чытаюць яе збольшага людзі немаладыя ўжо, часта вяскоўцы. Але мода на стварэньне сваіх сайтаў у сусьветнай сетцы не абмінула і гэтае выданьне, хоць, зразумела, мала хто зь яе чытачоў мае кампутар з Інтэрнэтам. Нядаўна на беларускім партале «Дзед Талаш» была разьмешчана вытрымка з сайту «Звязды» (www.zvyazda.minsk.by), якую мы і друкуем ніжэй. Камэнтары тут, мяркуем, не патрабуецца.

**«Для пошука увядзіте ключавые слава (можна без аканчаткау), выдзяліце рубрыцы у каторых павінна іскаць (ілі не выдзеляйце - тады будзе праізведзен пошук па усім рубрыцам) и націсніце кнопку «ПОШУК»**

**Для пошука некалькі слоу у стацьях з условіем, што усе уведзенные словы будуць абавяскова присутнічаць, атмецьце бокс рядам з полем увода слоу.**

**Для пошука ва усіх сушчэствующчых рубрыцах (можна не выдзеляць - пошук па усім рубрицам па умалчанію)».**

Што ж, як сказаў дзед Талаш, «які назоў, гэткая й газэта».

*«Верас»*

## Нізка навінаў

**Посетитель имени себя**

В День знаний президент Республики Беларусь посетил Академию управления при президенте Республики Беларусь. Как говорится, живу в стране имени себя, слушаю песни о себе в исполнении ансамбля имени себя и т.д. Почти по-советски...

*«Белорусская газета»*

* * *

Зранку 29 верасьня ў Палацы Рэспублікі, дзе праходзіў Зьезд дэпутатаў саветаў дэпутатаў, можна было назіраць цікавую карціну. Перад буфетам, які знаходзіцца ў файе, сабралася калясальная чарга дэлегатаў, якія прагнулі набыць газаваныя напоі. Падобную сымпатыю прадстаўнікоў мясцовызх саветаў да «Мінскай-4» патлумачыць было даволі проста, паколькі неафіцыйная частка сустрэчы прыхільнікаў прэзыдэнта пачалася напярэдадні ўвечары. Акрамя гэтага, раз-пораз сярод сабраных можна было заўважыць дэпутатаў, якія яшчэ даволі няцьвёрда трымаліся на нагах. Усяго на Зьезьдзе прысутнічала больш за 1,5 тысячаў дэлегатаў і блізу тысячы гасьцей, так што пра суму, якая пайшла на правядзеньне падобнага мерапрыемства, можна толькі здагадвацца. Варта адзначыць, што менскі доўгабуд, які больш за дзесяцігодзьдзе ўзводзіцца на Кастрычніцкай плошчы, быў здадзены зь недапрацоўкамі. Напрыклад, падчас Зьезду не працавалі эскалатары. У гардэробе абарвалася вешалка і прабіла жанчыне руку. Да абслугоўваньня мерапрыемства былі прыцягнутыя каля ста студэнтак філялягічнага факультэту БДУ. З гэтай нагоды іх вызвалілі на тры дні ад заняткаў, нават паабяцалі выплаціць надбаўку да стыпендыі. Напэўна, за шкодныя ўмовы працы.

* * *

Нядаўна ў Віцебскім абласным краязнаўчым музэі адкрылася экспазыцыя вядомага ў горадзе фотамастака Ўладзімера Базана «Віцебскі кур'ер»' -хроніка газэтнай паласы». Уладзімір Базан зьяўляецца галоўным рэдактарам папулярнай у горадзе незалежнай газэты «Віцебскі кур'ер». Аднак праз дзень пасьля яе адкрыцьця з экспазыцыі былі зьнятыя некаторыя працы Базана. Па словах віцебскіх музэйшчыкаў, яны «не адпавядаюць кірунку, які праводзіць музэй як дзяржаўная ўстанова». На зьнятых з экспазыцыі фотаздымках - Пазьняк, Шушкевіч, розныя мітынгі, акцыі пратэсту. Напачатку выставу хацелі ўвогуле зачыніць, аднак з павагі да аўтара ўрэзалі толькі кроніку. За апошні час гэта першы ў гісторыі Віцебска выпадак, калі выстава аказваецца пад пагрозай быць зачыненай па палітычных матывах.

* * *

Арганізатар віцебскага філіяла Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады (БСДГ) Алесь Мудрычэнка перадаў у сродкі масавай інфармацыі тэкст заявы, дзе паведамляе аб двух нападах, якім ён падвяргаўся на мінулым тыдні. Паводле яго словаў, у абодвух выпадках адбывалася гэта практычна ў цэнтры Віцебска, на плошчы Леніна, дзе Мудрычэнка ўжо правёў палову свайго месячнага санкцыянаванага пікета. Увесь гэты час ён, стоячы пад бел-чырвона-белым сцягам, агітаваў прахожых за байкот кастрычніцкіх выбараў у Палату прадстаўнікоў. 27 верасня ў пікетоўца разарвалі плакат, на якім пад партрэтам Лукашэнкі было напісана: «Я на выбары не пайду - усё роўна падмануць». У другім выпадку, 29 верасня, невядомы чалавек, сказаўшы «гэта табе за бацю», кінуўся на пікетоўца з кулакамі і разбіў яму твар. Адбылося гэта ў той момант, калі міліцыянер, прыстаўлены ахоўваць грамадзкі парадак у месцы правядзення пікета, адыйшоў. Урэшце, пацярпелы не выключае і іншых тлумачэнняў таго, чаму міліцыянт не адрэагаваў на інцыдэнт. Ня гледзячы на гэтыя інцыдэнты, аўтар заявы яшчэ два тыдні зьбіраецца праводзіць пікет, агітуючы за байкот выбараў і зьбіраючы заявы тых, хто жадае ўступіць у БСДГ.

* * *

У мінулую пятніцу ў Менску адбылася прэзэнтацыя беларускамоўнага дзіцячага садку, які адкрыўся на базе садка N 314, які некалі лічыўся беларускамоўным. Прысутнічалі на мерапрыемстве бацькі, госьці, журналісты. Падарункі для дзяцей былі падрыхтаваныя фірмай «Тэравіта», што зьявілася прыемным сюрпрызам для ўдзельнікаў. Садок складаецца пакуль толькі з адной групы, у якой займаюцца 17 дзяцей, прычым рознага ўзросту. Гуляюць дзеці ўсе разам, заняткі праводзяцца ў адным пакоі, але зь дзьвюма групамі паасобку. На тэрыторыі пляцоўкі для групы старыя гаражы распісаў вядомы беларускі мастак Алесь Пушкін.

Малады Фронт пачаў кампанію па байкоту выбараў у гэтак званую «Палату прадстаўнікоў». Кампанія мае назву «Вырабы-2000». Яе мэта - паказаць ілжывасьць і абсурднасьць абяцаньняў кандыдатаў у дэпутаты, а таксама фіксаваць парушэньні пад час «вырабчай» кампаніі. Малады Фронт зьбіраецца абраць сымбалічную «Палату прадстаўнікоў», месцы ў якой будуць разьмяркоўвацца паводле ілжывасьці і абсурднасьці перадвыбарчых абяцаньняў. Маладафронтаўцы зьбіраюць усе агітацыйныя ўлёткі, каб затым

скласьці адмысловы гіт-парад абяцаньняў. Перадвыбарчая агітацыя, паводле беларускага заканадаўства, дазваляецца ад 15 верасьня. Тым ня менш, ужо цяпер Малады Фронт мае больш за дзясятак прыкладаў незаконнай агітацыі.

* * *

Жыхар Менску Аляксандар Карызна патрапіў у міліцыю за распаўсюд спэцвыпуску газэты «Рабочы». Сямідзесяцігадовы парушальнік, былы вязень сталінскіх лягероў, быў затрыманы на праспэкце Францішка Скарыны ў раёне станцыі мэтро «Усход». Празь некаторы час пэнсіянэра выпусьцілі, вярнуўшы ўсе газэты. Адну міліцыянты папрасілі ўзяць сабе пачытаць.

* * *

9 верасьня ў горадзе Буда-Кашалёва Гомельскай вобласьці прайшоў першы ў гісторыі горада мітынг. Арганізаваны ён быў недзяржаўнымі арганізацыямі. Акцыя прайшла пад лёзунгам «Не - зьбядненьню народа, так - квітнеючай, незалежнай Беларусі». Пры падрыхтоўцы мітынга ў арганізатараў узьніклі праблемы з уладамі: было адмоўлена ў месцы правядзеньня. Плянавалася, што ён пройдзе на гарадзкой плошчы, але ўлады накіравалі «мітынгоўцаў» на стадыён. Усяго на стадыёне сабралося каля шасьці дзясяткаў гараджанаў, пераважную большасьць зь якіх прадстаўляла моладзь. Перад сабранымі выступіў старшыня Аб'яднанай Грамадзянскай Партыі - Анатоль Лябедзька. Прысутнічалі на мітынгу і прадстаўнікі праваахоўных органаў, якіх было некалькі дзясяткаў і якія таксама актыўна прымалі ўдзел ў дэбатах, задавалі пытаньні.

* * *

У Рэчыцы на базе аддзяленьня «Грамадзянскіх ініцыятываў» была створаная Каардынацыйная Рада па назіраньню за падрыхтоўкай і правядзеньнем выбараў у Рэчыцкім рэгіёне. Але, як паведаміў старшыня Каардынацыйнага Савету Аляксандар Зайцаў, «пасьля таго, як савет пачаў актыўныя дзеяньні па фіксацыі парушэньняў і падрыхтоўцы назіраньняў, пачалі адбывацца незразумелыя рэчы». Энэрганаглядам была спыненая падача электраэнэргіі, падобны крок матываваны адсутнасьцю якіхсьці дакумантаў. Гэтыя дакументы, у сваю чаргу, немагчыма атрымаць без тэхнічнага пашпарту на будынак, у якім месьціцца Каардынацыйная Рада. Пашпарт знаходзіцца ў Рэчыцкім гарадзкім судзе, і яго вяртаць пакуль не жадаюць. Таму ёсьць усе падставы дапускаць, што адключэньне электраэнэргіі, безь якой Каардынацыйная Рада ня можа паўнавартасна функцыянаваць, і адмова суда ў вяртаньні тэхнічнага пашпарту ўладальніку будынка - ўсё гэта зьвязана зь нежаданьнем уладаў мець пад бокам людзей, якія ажыцьцяўляюць кантроль за правядзеньнем восеньскіх выбараў.

* * *

«Белпошта» не ўключыла ў свой падпісны каталёг на чацьвёрты квартал «Беларускую маладзёжную» (belmol@irex.minsk.by). Канфлікт паміж кіраўніцтвам «Белпошты» і рэдакцыяй «БМ» абвастрыўся пасьля таго, як газэта з дапамогай сябраў Маладога Фронта, падняла пытаньне аб тым, што яе тыраж мэтанакіравана хаваецца ад пакупнікоў у многіх шапіках.

* * *

Супрацоўнікі смаргонскага агрэгатнага заводу дамагліся частковай выплаты заробкаў. Як мы паведамлялі раней, напрыканцы жніўня рабочыя пачалі бестэрміновую забастоўку, патрабуючы выплаты заробкаў за летнія месяцы. Урэшце працаўнікі атрымалі грошы за чэрвень і ліпень, але пытаньне застаецца адкрытым. Нявыплата заробку абумоўленая цяжкім станам, у якім апынулася прадпрыемства, што прадукуе міні-трактары. Дзякуючы эканамічнай крызе, немалым падаткам і высокім мытным зборам, якія ўстаноўленыя на замежныя камплектуючыя, кошты на прадукцыю прадпрыемства за гэты год ўзрасьлі ў два разы. У выніку завод страціў шэраг заказчыкаў у краінах былога СССР, рабочыя працуюць на склад. Як сьледзтва - адсутнасьць грошай.

* * *

Для таго, каб перайменаваць вуліцу Савецкую на вуліцу Ларысы Геніюш у Зэльве, на радзіме паэткі, выканкам вырашыў правесьці апытаньне жыхароў горада. Справа ў тым, што ў жніўні, калі сьвяткаваўся Дзень народзінаў паэткі, творчая інтэлігенцыя Беларусі зьвярнулася ў Зэльвенскі райвыканкам з прапановай аб наданьні адной з вуліцаў імя славутай беларускай паэткі. І вось цяпер прыйшоў адказ ад старшыні райвыканкаму, што ў сувязі з дадзеным пытаньнем праводзіцца «вывучэньне грамадзкага меркаваньня».

* * *

Зь сярэдзіны лета ў Жлобіне хлебныя вырабы прадаюцца выключна па сьпісах. Такая сытуацыя склалася ў сувязі са стратнасьцю Жлобінскага хлебазавода. Цяжкая сытуацыя з вырабам хлеба назіраецца і ва ўсёй Гомельскай вобласьці.

* * *

Вёска Расна Дрыбінскага раёну (Магілёўшчына) ня так даўно адзначыла свой 665-гадовы юбілей. У сувязі са сьвятам у вёсцы прайшло некалькі мерапрыемстваў, сярод якіх вечарына, на якой ішла размова пра гісторыю вёскі, тэматычныя выставы, экспазыцыі ў філіяле раённага гісторыка-краязнаўчага музэя.

Нядаўна на дошцы аб'яваў перагаворнага пункта Глускага раённага вузла сувязі зьявілася паведамленьне: «Прапануем паслугі сувязі: факс, Інтэрнэт, электронная пошта». Але, як аказалася на самой справе, радавацца жыхарам гарадка з прычыны далучэньня глушчанаў да сусьветнага павуціньня яшчэ рана. Як патлумачыла адна з супрацоўніцаў вузла сувязі, аб'яўка была павешаная перад прыездам нейкай камісіі, каб уразіць высокае чынавенства. Насамрэч ні Інтэрнэту, ні электроннай пошты для ўсіх жадаючых у Глуску як не было, так і няма.

* * *

15-га верасьня ў Віцебску адбыўся пікет, асноўнай мэтай якога было прыцягненьне ўвагі да праблемаў няўрадавых арганізацыяў Беларусі. Пікет быў наладжаны Грамадзкім аб'яднаньнем «Контур» супольна зь Віцебскім асьветніцкім таварыствам «Паходня». Сабраў ён каля 25-ці ўдзельнікаў. Да акцыі далучыліся прадстаўнікі іншых грамадзкіх аб'яднаньняў і групаў: БНФ «Адраджэньне», ВСМ «Верас», Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў, Малады Фронт. На пікеце распаўсюджваліся ўлёткі «Асамблея дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў супраць выбарчага фарсу», газэта віцебскай моладзі «Верас», незалежнае інфармацыйна-аналітычнае выданьне «Віцебская Трыбуна».

Новым дырэктарам Магілёўскага драматычнага тэатру можа стаць Андрэй Новікаў, які раней працаваў у абкаме БПСМ і загадваў упраўленьнем першаснымі арганізацыямі патрыётаў. На пытаньне, калі ён апошні раз быў у тэатры, сп. Новікаў адказаў, што напрыканцы мінулага году вадзіў дочку на дзіцячы сэанс. Супрацоўнікі тэатру непакояцца, што кадравыя зьмены могуць адбіцца на творчай працы тэатру, калі кіраўнік зажадае стварыць «патрыятычную» суполку і сярод творчага калектыву. Апошняе слова застаецца яшчэ за акторамі.

* * *

У Віцебску адбылася прэзэнтацыя 37-га нумару мастацка-публіцыстычнага часопісу «Ідыёт». Новы нумар прысьвечаны мастаку Алесю Пушкіну. Тут ёсьць літаратурныя опусы на любы густ і розных жанраў - ад падарожных нататак да ўспамінаў да лірыкі. Як заўсёды, некалькі старонак прысвечана хроніцы культурнаа жыцьця Віцебску. Часопіс выдаецца самвыдатам з 1983 года, і ўсё дзякуючы намаганьням рэдактара Вячаслава Новікава. А ў 1995 годзе часопіс атрымаў у Маскве Малую Букераўскую прэмію.

* * *

7 верасьня Беларусь пакінула група з 12 актывістаў маладзёвых рухаў і партыяў, якія на працягу мінулага навучальнага году былі выключаныя з навучальных установаў з прычыны ўдзелу ў мітынгах і іншых

палітычных акцыях. Аднак выгнаньне з унівэрсытэту стала выгоднай справай: гэтыя маладыя людзі атрымалі магчымасьць працягваць вучобу па сваёй спэцыяльнасьці ў Чэхіі. Рэалізуецца гэтая праграма Маладым Фронтам ды БХК пры падтрымцы ўраду Чэхіі ды чэскай грамадзкай арганізацыі «Чалавек у бядзе». Аднак беларусы, што паехалі ў Чэхію, не зьбіраюцца гэтым паставіць кропку ў сваёй палітычнай дзейнасьці - наадварот, у Празе пачне працу беларускі цэнтар.

* * *

Улады г. Горкі робяць выдатную рэкляму недзяржаўным арганізацыям. Загадчык аддзелу культуры Кузьняцоў адмовіў у правядзеньні канцэрту студыі «Жывы гук» толькі на той падставе, што афішы былі надрукаваныя на беларускай мове. Частка афішаў была зьнятая, па горадзе папаўзьлі самыя неверагодныя чуткі. Калі нарэшце дазвол быў дадзены, на забаронены канцэрт сабраліся ня толькі маладыя гараджане, але й сталыя людзі.

* * *

**Гэта нават ужо ня сьмешна...**

Аб'яднаная Грамадзянская Партыя атрымала яшчэ адно, ужо пятае, папярэджаньне ад Міністэрства Юстыцыі. Прычына чарговага папярэджаньня - несвоечасовае рэагаваньне на мінулае папярэджаньне. У кіраўніцтве партыі сьцьвярджаюць, што насамрэч рэагаваньне было цалкам своечасовае. Мінюст не задаволіла, што афіцыйная папера пайшла не ад вышэйшага органу партыі, Нацыянальнага Камітэту, а ад яго прэзыдыюму. Нагадаем, мінулыя папярэджаньні былі кшталту «незаконнага інтэграваньня» электроннай адрэсы ў эмблему партыі ці няправільнага выкарыстаньня ў афіцыйным блянку словаў «Рэспубліка Беларусь». Прадстаўнікі партыі ўпэўненыя, што падобная кампанія Міністэрства Юстыцыі зьяўляецца заказной і распачатая менавіта перад парляманцкімі выбарамі, каб улады мелі інструмант ціску на адну з буйнейшых апазыцыйных партыяў Беларусі, бо для пазбаўленьня партыйнага ўтварэньня афіцыйнай рэгістрацыі дастаткова ўсяго двух папярэджаньняў.

* * *

У Бабруйску БПСМ праводзіў ваянізаваны спартовы лягер пад назвай «Экалягічны бастыён». 70 чалавек на працягу месяцу мусілі чысьціць лес. У дадатак моладзь на сабе даведвалася пра распарадак жыцьця ў савецкім войску: з праверкамі, ранішнімі аглядамі і начнымі трывогамі, толькі што «губы» не было. За тое, што падлеткі так добра і шмат напрацаваліся, кожнаму ўдзельніку лагера выплацілі заробак. Дровамі.

*BARC-ID List*



# Памятка

**Як вядома, палітычна-актыўныя людзі часта рызыкуюць быць затрыманымі на шматлікіх мітынгах і шэсьцях, што праводзяцца апазіцыяй. Сапраўды, нярэдка міліцыя затрымлівае нават не ў чым не вінаватых удзельнікаў акцыяў, і кожны з нас можа апынуцца ў такой сітуацыі. Нядаўна да нас у рэдакцыю трапіла невялічкая памятка, дзе даюцца тлумачэньні праў затрыманых. Раім вам выразаць яе і заўсёды мець з сабой.**

Май пры сабе пашпарт — менш непрыемнасьцяў. Май пры сабе дробна парэзаныя паперкі з тэлефонамі праваабарончых арганізацыяў.

**Затрыманьне:**

1. Пры затрыманьні людзьмі ў форме не аказвай супраціўленьне каб не парушыць Крымінальны кодэкс.

2. Супраціўленьне невядомым у цывільным (якія не прадставіліся супрацоўнікамі МУС) не зьяўляецца правапарушэньнем: раптам яны бандыты?

3. Пры затрыманьні можаш кінуць паперкі з тэлефонамі і выкрыкні ў натоўп: «Я такісьці, патэлефануйце па гэтых тэлефонах» — заўсёды знойдзецца чалавек, як так і зробіць.

4. Пасадзілі ў машыну — абмяняйся тэлефонамі з іншымі затрыманымі: на судзе будзеце адзін у аднаго сьведкамі.

5. Зафіксуй час затрыманьня. Зьвярні на гэта ўвагу іншых затрыманых.

6. Запомні ўва што былі апранутыя людзі, якія цябе затрымалі — можа спатрэбіцца ў судзе.

**У міліцыі:**

1. Прывезьлі ў РАЎС, пастарунак ці іншае месца — зафіксуй час, зьвярні на гэта ўвагу іншых затрыманых разам з табой ці тых, хто ўжо знаходзіцца там. Не зьвязвайся з жабракамі і алкашамі — падмануць.

2. Склалі пратакол аб адміністратыўным правапарушэньні — уважліва яго прачытай. Патрабуй запісу аб часе напісаньня пратакола ці запішы яго сам. Маеш права не падпісваць гэты дакумэнт — наступстваў ніякіх (лепей не падпісваць).

3. Патрабуй паведаміць пра тваё затрыманьне дадому ці на працу — міліцыянты павінны зрабіць гэта. Але не прасі даць табе пазваніць самому — не дадуць, на што маюць права.

4. Могуць правесьці асабісты вобыск і вынятак рэчаў, дакумэнтаў. Сачы, каб у пратаколе ўзгадалі ўсе рэчы, якія былі забраныя.

5. Трымаць у міліцыі могуць ня больш за 3 гадзіны (пры наяўнасьці пашпарта ці іншага дакумэнта).

**У судзе:**

1. Пасьля тлумачэньня судзьдзем тваіх правоў заяві хадайніцтвы: аб адвакаце, аб допуску ў працэс прадстаўніка (асабістага ці ад праваабарончай арганізацыі); аб азнаямленьні (разам з адвакатам і прадстаўнікамі) з матар'яламі справы; аб допыце сьведкаў абароны (прозьвішча, імя, імя па бацьку).

2. Ніколі ня хлусі. Лепш не сказаць усёй праўды, чым сказаць няпраўду. Няхай хлусяць міліцыянты — праваабаронцы іх «раскруцяць».

3. Суд — ня мітынг. Ня трэба агітаваць — толькі інфармацыя пра фактычныя абставіны: час, месца, хто ўдзельнічаў.

**Пасьля суда:**

Абавязкова напішы ў пракуратуру скаргу на незаконнае затрыманьне. Калі прысуд апраўдальны — у скарзе патрабуй прыцягнуцьда адказнасьці тых, хто затрымліваў і хлусіў у сваіх паказаньнях у судзе. Пазнач адрэсу, на якую пракуратура павінна выслаць адказ.

**Праваабарончыя арганізацыі:**

Беларускі Хэльсынскі камітэт (БХК):
*Віцебск* (0212) 22-11-39 *(хатні)*
*Менск* (017) 256-23-55, 222-48-00, 222-48-01
*Гомель* (0232) 53-84-76 *(працоўны)*
*Баранавічы* (01634) 2-31-39 *(хатні)*
*Горадня* (0152) 31-56-56 *(хатні)*
*Магілёў* (0222) 23-82-42 *(хатні)*
*Берасьце* (0162) 23-98-88 *(хатні)*
*Пінск* (0165) 35-65-63 *(хатні)*
*Бабруйск* (0225) 55-17-29 *(працоўны)*

ГА «Прававая дапамога насельніцтву»:
(017) 210-52-96
Праваабарончы цэнтар «Вясна»:
(017) 284-50-12
Цэнтар па правох чалавека:
(017) 266-25-70
Беларуская Асацыяцыя журналістаў:
(017) 223-63-66

**Віцебская суполка моладзі «Верас» шукае супрацоўніцтва з маладымі людзьмі. Калі ў вас ёсьць нейкія цікавыя задумы й ідэі, але вы ня маеце магчымасьці іх рэалізаваць, то зьвяртайцеся да нас: па меры магчымасьці мы абавязкова вам дапаможам!**

**Пішыце нам:** ***vsm@vsm-veras.org*** **альбо** ***Віцебск, 210032, а/с 29-А***

# З гісторыі «Пагоні»

19 верасня дзевяць гадоў таму Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь дзвюма трацямі галасоў зацвердзіў дзяржаўнымі сімваламі нашай краіны старажытныя нацыянальныя сімвалы — герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг.

Герб Белыя Руси издревле был всадник белый в красном поли, саблю имеюсчий пред собою...

Васіль Тацішчаў, 1739 г.

Гісторыя нашага герба і сцяга сягае сваімі каранямі ў сівую даўніну. Герб «Пагоня» ў летапісных крыніцах упершыню ўпамінаецца ў канцы XIII ст.: «А Витен нача княжати над Литвою, измысли себе герб и всему князству Литовскому печать: рыцар збройный на коне з мечем, еже ныне наричут погоня». Дарэчы, рыцар з узнятым мячом скакаў і на сцягу ВКЛ.



Выява вершніка з мячом сімваліза-вала воіна, гатовага абараняць сваю радзіму ад ворага. Зазначу, што назву «пагоня» мела і сама ваенная павіннасць па абароне дзяржавы. Паводле ўсходнеславянскай традыцыі, пасля раптоўнага нападу мужчыны пешшу і конна даганялі ворага, каб вызваліць палонных і паквітацца за забітых. Інакш кажучы, выпраўляліся ў пагоню. У адрасаванай жыхарам беларускіх земляў грамаце ад 20 лютага 1387 г. вялікі князь літоўскі і кароль польскі Ягайла пісаў: «У тым жа разе, калі давядзецца гнацца за ворагамі і непрыяцелямі нашымі, дык у гэтае сцігнаванне, што па-народнаму завецца пагоняй, абавязаныя ісці не толькі рыцары, але і кожны мужчына, незалежна ад паходжання і багацця, абы ён здольны быў насіць зброю». Адсюль больш зразумелымі робяцца і назва герба Беларусі, і яго вытокі. Дадам, што, на думку некаторых даследчыкаў, на гербе «Пагоня» адлюстраваны паганскі бог Ярыла. Міфалагема «коннага бoства», «бога-вершніка» была шырока распаўсюджана сярод індаеўрагуйскіх народаў.

З пачатку XV ст. на шчыце «Пагоні» ўжо сустракаецца шасціканцовы крыж з карацейшай верхняй перакладзінай. Такія крыжы былі тыповымі хрысціянскімі сімваламі на Беларусі ў XI - XIV стст. Канчаткова сфарміраваны, герб беларускага гаспадарства выглядаў, як пурпуровы шчыт з белым конным рыцарам. Пурпур лічыўся самым шляхетным колерам. Ён сімвалізаваў агонь, мужнасць, ваяўнічасць, ратную доблесць. Белы (срэбраны) колер азначаў у вачах нашых продкаў ваду, чысціню, дабро, незалежнасць. Золата шасціканцовага крыжа на чырвоным шчыце было сімвалам жыцця, святла, надзеі і высакароднасці.

З цягам часу ва ўсёй Еўропе з'яўляюцца дзяржаўныя сцягі, колеравая гама якіх утваралася ад гербаў. Прынцып быў такі: гербавая выява давала асноўную барву сцяга, а геральдычны шчыт — дадатковую. Наш бел-чырвона-белы сцяг, які ўзнік не пазней за пачатак XVI ст., поўнасцю адпавядае законам геральдыкі: верхняя паласа на ім — колер «Пагоні», сярэдняя — спрадвечны колер самога сцяга, а ніжняя — колер рыцарскага шчыта на «Пагоні». Найбольш старажытная выява беларускага сцяга захавалася на карціне, прысвечанай пераможнай бітве нашых продкаў з маскавітамі пад Оршай (1514).

Гаворка аб сэнсе колераў беларускага сцяга будзе няпоўнай, калі не сказаць аб яго сувязі з хрысціянскай сімволікай. Белчырвона-белыя стужкі мы можам бачыць на адзенні праваслаўных іерархаў. Белы колер сімвалізуе туг чыстую душу верніка, а чырвоны — слова праўды, пасеянае ў ёй праз пакугы і смерць Хрыста.

У 1918 г., з адраджэннем нашай дзяржаўнасці, герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг становяцца дзяржаўнымі сімваламі Беларускай Народнай Рэспублікі. У 1991 г. адпаведная пастанова была прынятая Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь, аднак у выніку ганебнага рэферэндуму 1995 г. яна была скасавана. Тым самым дзяржава збочыла э тысячагадовага Беларускага Шляху, адраклася ад абмытых крывёю святых сімвалаў, што ўвасабляюць гераічную барацьбу нашых продкаў за незалежнасць. Аднак пройдзе час, абсыплецца таталітарнае шалупінне і спрадвечныя нацыянальныя сімвалы вернуцца з кароткачасовага забыцця, таму што, як пісаў наш славуты паэт Максім Багдановіч:

— Старадаўняй Літоўскай пагоні Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.

*П. А. «Рабочы»*

**На Крапівенскім полі, што пад Воршай, дзе ў 1514 годзе адбылася бітва паміж войскамі Вялікага княства Літоўскага і княства Маскоўскага, прайшло сьвяткаваньне Дню беларускай вайсковай славы. На імпрэзу зьехаліся прадстаўнікі грамадзкасьці з Менску, Віцебку, Магілёву, навакольных раёнаў. На пачатку праграмы каталіцкі сьвятар з аршанскага касьцёлу Сьвятога Язэпа адслужыў на полі сьвяточную імшу, пасьля чаго перад сабранымі з паказальнымі праграмамі выступілі сябры менскіх рыцарскіх клюбаў. Увазе гледачоў былі прадстаўленыя двубоі, групавыя паядынкі, інсцэніроўкі падзеяў пяцісотгадовай даўніны. У працяг праграмы адбыўся бардаўскі канцэрт. Мастак Алесь Пушкін прадставіў пэрфоманс «Інкарнацыя далёкага поклічу». Пад вечар актывісты спартова-патрыятычнай арганізацыі «Край», каб узьняць баявы дух сабраных, пашпацыравалі з запаленымі паходнямі і нацыянальнымі сьцягамі.**

***BARC-ID***

Сабраў Бог кіраўнікоў дзяржаваў і папрасіў паведаміць сваім грамадзянам, што неўзабаве канец сьвету надыдзе. І вось Клінтан выступае па тэлевізіі: — Дарагія грамадзяне ЗША! Маю для вас дзьве навіны: адна добрая, другая —кепская. Добрая навіна: Бог, як мы й меркавалі, ёсьць! Кепская: неўзабаве канец сьвету! Ельцын — Соотечественники! У меня, панимаешь, для вас две плохие новости: Бог все-таки есть, и скоро конец света. Лукашэнка: — Замечацельный беларусский народ и дарагие жэнщчыны! У меня для вас дзве прэкрасные новасци! Первая - Бог признал меня за прэзидэнта! Вторая - я буду править вами да канца света!

* * *

Сапраўдная цытата: «8 мая. Валгаград. Плошча загінуўшых герояў. Беларускага прэзідэнта чакалі тут даўно.» Алена ЛАДУЦЬКА, Беларускае тэлебачаньне, АТН, 8 траўня 1999г., 21:12

*Показкі з «Карчмы ў старога Язэпа»*




*Гэтак жартуюць сербы з маючых адбыцца ў Югаславіі прэзідэнцкіх выбараў*



ПА ГАРЫЗАНТАЛІ: 5. Адамаў яблык. 6. Аўтамабіль ад немцаў. 9. Жыллё Мінатаўра (міф.). 10. Антонаў агонь. 14. Лягушчыны лапкі (спарт.). 15. Спадарожнік «бабінага лета». 16. Ляпная «шыльда» — выява на публічных дамах у Старажытнай Грэцыі. 19. Змітрок Бядуля па пашпарце. 22. Гнеўная тырада. 23. Рухавік яхты (паэт.). 24. Чайная талерачка. 25. Жанчына з вагамі і мячом (міф.). 30. Кармэн па нацыянальнасці (муз.). 32. Вандроўны тэатр з камедыянтамі і штукарамі. 33. Піпікалка. 36. Вадаём, які п'янаму па калена. 37. Кішэнны захавальнік цыгарэт. 38. Божы конь. 41. Папераноска. 42. Эзопава мова. 43. Паплавок на фарватэры ракі. 44. Канчатковы паказчык.

ПА ВЕРТЫКАЛІ: 1. Польская дама. 2. «Вона! Пайшла пісаць губерня» (персанаж). 3. Горы на італьянскім боце. 4. Конскі бег. 7. Першая ... 8. Катлета з-пад малатка. 11. Царская «дубінка». 12. Карабельны афіцыянт. 13. Музыкант Крылоўскага «Квартэта». 17. Другая назва бегемота. 18. Кулінарная васьмёрка. 20. Плёнка з цёмнай рэпутацыяй. 21. Азіятка. 26. Пісака, якога пакрыўдзіў Бог. 27. Рыхтуй летам сані, а зімой ... . 28. Лясная бухгалтэрыя. 29. Мянушка дзеда з рамана В. Карамазава «Пушча». 31. Утаймавальнік мін (ваен.). 34. Нерухомы дэманстратар адзення. 35. Малпавы жанр. 39. Даведнік турыста. 40. Дымаправод.

*Склаў Мікалай Камароўскі, «Вожык»*

Бюлетэнь **"ВЕРАС"**
*Галоўны рэдактары:* Яраслаў Манцэвіч
*Паштовыя адрэсы:* gazeta@veras.bn3.com; Віцебск, 210032, а/с 29-А
*Заснавальнік:* Віцебская суполка моладзі "Верас" (vsm@veras.bn3.com). *Падтрымка:* USIS
*Выдавец:* Віцебскі цэнтар моладзевых ініцыятываў "Контур". *Друк:* ВА Фонда імя Л. Сапегі
*Наклад* 299. На правах рукапісу. Дзеля ўнутранага карыстаньня. **Распаўсюджваецца бясплатна.**